Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

# СВАБОДА

Пятніца, 27 чэрвеня 1997 г. | № 69 | Кошт свабодны

## Ураганны суботнік

**Заўтра, 28 чэрвеня, плануецца правесці суботнік, сродкі ад якога пойдуць на ліквідацыю наступстваў стыхійнага бедства — урагану 23 чэрвеня.**

З такой прапановай у сераду выступіла лукашэнкаўская палата. Учора, на момант падпісання газеты ў друк, яшчэ не было вядома, ці прыме адпаведную пастанову Савет міністраў. Далі знаць старыя хваробы, вядомыя яшчэ з савецкіх часоў. За пафасным антуражам суботнікаў хавалася шэрая рэчаіснасць.

Галоўным бар'ерам на шляху хуткага прыняцця пастановы стала міністэрства фінансаў. Высветлілася непрыемная карціна вынікаў папярэдняга суботніка, у якім браў удзел прэзідэнт Лукашэнка: адрапартавалі, што працавалі на суботніку ўдарна, а грошы ў казну дагэтуль яшчэ не паступілі. Пералічэнне сродкаў, паводле самых аптымістычных прагнозаў, працягнецца да верасня. На гэты раз, калі зробленыя на суботніку грошы павінны пайсці на дапамогу ахвярам стыхійнага бедства, пустымі рапартамі не адкруцішся, бо сродкі патрэбныя тэрмінова.

Тым часам старшыня «парламента» Анатоль Малафееў рвецца рамантаваць дахі ў вясковых хатах: як заўсёды — камуністы наперад!

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*(Працяг тэмы на стар.2)*

## Тэлемост за 300 тысяч долараў

**З 26 чэрвеня ў швейцарскім горадзе Кран-Мантана праходзіць Міжнародны эканамічны форум. У якасці спецыяльна запрошанага на ім прысутнічае і дэлегацыя Беларусі на чале з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам.**

У форуме, галоўная мэта якога — умацаванне кантактаў урадавых і бізнесовых колаў, удзельнічаюць дзяржаўныя чыноўнікі, прадпрымальнікі, навукоўцы, журналісты. Статус спецыяльна запрошанага сёлета атрымала не толькі Беларусь, але таксама Марока, Ліван і Эстонія. На сёння, 27 чэрвеня, запланаванае спецыяльнае паседжанне па праблемах беларускай эканомікі, у якім завочна — пры дапамозе тэлевізійнай сувязі — возьме ўдзел А.Лукашэнка. Як паведамілі ў прэс-службе прэзідэнта, *«тэлемост будзе без скарачэнняў паказаны ў праграме «Панарама»*.

Удзел у форуме каштуе Беларусі 300 тысяч амерыканскіх долараў, прычым палова гэтай сумы бярэцца з дзяржаўнага бюджэту — г.зн. з кішэні падаткаплацельшчыкаў.

**Ян ГАЛЕВІЧ**

## Адвакаты – на выхад

**У адпаведнасці з прэзідэнцкім дэкрэтам з 1 ліпеня ў Беларусі забараняецца прыватная адвакацкая практыка. Цяпер усе адвакаты павінны ўваходзіць у падкантрольныя дзяржаве адвакацкія калегіі.**

У Гродзенскай вобласці, напрыклад, было 25 прыватных адвакатаў. Але толькі 14 з іх прынятыя ў дзяржаўную абласную адвакацкую калегію.

Шасці прыватным адвакатам было адмоўлена адразу па прычыне таго, што ў іхніх ліцэнзіях значылася права толькі на юрыдычныя паслугі, а не на адвакацкую практыку. Яшчэ тром выкладчыкам Гродзенскага універсітэта патлумачылі, што згодна з дэкрэтам прэзідэнта забараняецца сумяшчаць выкладчыцкую працу з адвакацкай практыкай (можа быць толькі наадварот: калі працуеш адвакатам, тады ў вольны час чытай лекцыі студэнтам). І яшчэ двое не былі прынятыя ў шэрагі абласной адвакацкай калегіі за тое, што адмовіліся ехаць працаваць адвакатамі ў аддаленыя раёны вобласці, матывуючы тым, што іх сем'і жывуць у Гродна. У адказ ім нагадалі, што гэта дзяржаўная праца, на якой усе павінны прытрымлівацца працоўнай дысцыпліны. Але найбольш не пашанцавала сям'і Байковых. Муж і жонка працавалі прыватнымі адвакатамі ў г.Масты. Аднак прэзідыум калегіі вырашыў, што аднаму з іх давядзецца абавязкова ехаць у Воранава, паколькі там не стае адвакатаў.

**М.МІКАЛАЙЧЫК**





## Куды падзеліся 350 мільёнаў долараў – загадка

Беларусь прадала Перу 16 самалётаў МіГ-29с. Кантракт быў заключаны яшчэ напрыканцы мінулага года. Паводле нашых звестак, перуанцы заплацілі больш за 350 мільёнаў амерыканскіх долараў. Для Беларусі гэта — шалёная сума. Але куды падзеліся грошы — невядома. У якасці прадаўца выступаў фактычна прэзідэнт Лукашэнка.

Пра гэтую здзелку ў заходняй прэсе з'яўляюцца ўсё новыя і новыя падрабязнасці, а ў беларускіх афіцыйных газетах — ні слова. Захад, ясна, цікавіцца беларуска-перуанскім кантрактам па сваіх прычынах. Амерыканцы, напрыклад, лічаць, што ваеннае ўзмацненне Перу правакуе іншыя дзяржавы Лацінскай Амерыкі таксама выкідваць вялікія грошы на сучасныя ўзбраенні — а для жабрацкіх краінаў гэта непасільны цяжар. Ёсць звесткі, нібыта ЗША спрабавалі пераканаць беларускага прэзідэнта, каб ён устрымаўся ад спакусы прадаць Перу партыю сучасных баявых самалётаў.

Але Рыгоравіч не паслухаў і «загнаў» шаснаццаць МіГаў перуанцам. Акрамя таго, на авіяцыйных базах у Баранавічах і Лідзе прайшлі падрыхтоўку некалькі дзесяткаў перуанскіх лётчыкаў, за навучанне якіх таксама былі заплочаныя добрыя грошы. Праўда, заходнія эксперты сцвярджаюць, што адмова Расіі забяспечваць перуанскія МіГі запаснымі часткамі робіць грозныя баявыя машыны прыдатнымі хіба толькі для парадаў. Аднак у Лукашэнкі галава пра гэта балець не павінна — самалёты купілі, грошы заплацілі і лётайце як можаце.

Ва ўсёй гэтай гісторыі нас, безумоўна, найперш цікавіць грашовае пытанне — куды пайшлі заплочаныя перуанцамі 350 мільёнаў долараў. Дзе гэтыя грошы, Аляксандр Рыгоравіч?

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Перуанцам не да смеху

**Кельвін СІМС**, ***New York Times***

### *Той, хто пакваліўся на танную пакупку, спачатку паціраае рукі, пасля — кусае локці*

Менавіта так здарылася з перуанскімі генераламі, якія ў мінулым годзе старанна вывучалі рынак узбраення і знайшлі нібыта выдатны варыянт: усяго за 350 мільёнаў долараў яны купілі ў Беларусі не адзін, не два, а цэлую эскадрыллю самых сучасных самалётаў-знішчальнікаў. Генералы радаваліся, а лацінаамерыканскія суседзі Перу пазелянелі ад зайздрасці.

Аднак калі пачалася дастаўка самалётаў у Перу, узніклі праблемы. Можа здарыцца так, што гэтыя знішчальнікі ніколі не будуць гатовыя да выканання баявых задач. Высветлілася, што на ваенныя машыны няма ніякай гарантыі, а прадавец не збіраецца забяспечваць сервіснае абслугоўванне.

Самалёты, якія закупіла Перу, — савецкія МіГ-29с — сапраўды выдатная і самая сучасная лётная тэхніка. Ні адна іншая краіна ў Лацінскай Амерыцы нічога падобнага не мае. Перуанскія вайскоўцы набылі іх не ў Расіі, дзе самалёты выпускаюцца, а ў Беларусі. Але ж Беларусь поўнасцю залежыць ад расійскіх вытворцаў у тэхнічным забеспячэнні паветраных сілаў і не можа прапанаваць сервісныя паслугі на экспарт. Расія ж, натуральна, хоча прадаваць ваенную тэхніку самастойна — і папросту адмаўляецца абслугоўваць самалёты, закупленыя ў канкурэнта.

На першы погляд сітуацыя выглядае даволі камічна, перуанскія генералы трапілі ў прыкрую сітуацыю, але па сутнасці нічога смешнага няма. Перу — вельмі бедная краіна з велізарным бюджэтным дыфіцытам, большая частка насельніцтва жыве за рысай беднасці. Гісторыя з беларускімі знішчальнікамі паказвае, як вайскоўцы могуць ігнараваць унутраныя праблемы і выкідваць грошы фактычна на вецер. Памкненні перуанскіх генералаў моцна павысіць тэхнічны ўзровень сваіх паветраных сілаў вялізным цяжарам лягуць на бюджэты суседзяў Перу — такіх жа бедных лацінаамерыканскіх дзяржаваў.

У значнай ступені па гэтых прычынах Злучаныя Штаты не прадавалі свае ваенныя самалёты ў Лацінскую Амерыку — каб не ўзмацняць напружанасць у рэгіёне. Але факт перуанска-беларускай здзелкі паказвае, што на гэтыя рынак увайшлі постсавецкія канкурэнты, і, відаць, ЗША давядзецца перагледзець сваю пазіцыю. Чым гэта скончыцца — няцяжка здагадацца: лацінаамерыканскія краіны яшчэ доўга не змогуць выбрацца з балота голаду, непісьменнасці, эпідэмій.

Але вернемся да нашых самалётаў. Для дыпламатаў і ваенных экспертаў у Лацінскай Амерыцы было дзіўным і непрыемным адкрыццём, што Перу знайшла выгаднага пастаўшчыка ўзбраенняў у асобе Беларусі, але Расія — найбліжэйшы сусед і, як аказалася, галоўны канкурэнт — зрабіла ўсё, каб сапсаваць здзелку. У канцы траўня Расія афіцыйна пацвердзіла, што ніяк не будзе супрацоўнічаць з Перу ў справе тэхнічнага абслугоўвання самалётаў, заявіўшы, што гэта — выключная справа Беларусі. Але ж расійскія дыпламаты і вайскоўцы выдатна ведаюць, што Беларусь не мае ніякай магчымасці гэта зрабіць. Фактычна гэта эканамічны шантаж. Бо без тэхнічнай падтрымкі і надзейнага забеспячэння запаснымі часткамі новая перуанская эскадрылля наўрад ці зможа выконваць тыя задачы, для якіх, уласна кажучы, створаныя самалёты.

*«Купля гэтых МіГаў-29с у Беларусі выглядае дакладна так, як калі б вы выпадкова купілі ў прадаўца на вуліцы прыгожы халадзільнік, прынеслі яго дахаты, а потым схамянуліся, што на яго няма ніякай гарантыі, а запчастак не існуе ў прыродзе»*, — сказаў ваенны эксперт, блізкі да паветраных сілаў Перу.

Перуанскі ўрад і чыноўнікі міністэрства абароны ўстрымліваюцца ад каментарыяў, але ёсць звесткі, што яны страшэнна раззлаваныя на Беларусь за тое, што яна не забяспечыла магчымасць сервіснага абслугоўвання самалётаў перад тым, як прадаваць іх у Перу. Эксперты сцвярджаюць, што Беларусь нават не спрабавала звярнуцца да расійскіх вытворцаў у гэтай справе да таго часу, пакуль чатыры знішчальнікі не была ўжо дастаўленыя пакупніку. Але што хацець: якая цана — такі і тавар.



**На здымку: у гэтым будынку, які знаходзіцца каля мінскага рэстарана «Свіцязь», аб перуанскім кантракце ведаюць усё. Тут размяшчаецца фірма «Белтэхэкспарт», якая спецыялізуецца на гандлі ўзбраеннем. Менавіта праз гэтую фірму былі прададзеныя ў Перу 16 МіГаў.**

## Энергетычныя даўгі

**Даўгі Беларусі за расійскі газ перавышаюць 8 трыльёнаў беларускіх рублёў (больш за 250 мільёнаў долараў).**

Як паведаміла крыніца ва ўрадзе, толькі з пачатку гэтага года краіна завінавацілася за газ амаль 3 трыльёны рублёў. Аплата ў студзені-траўні склала 92,5%.

Акрамя таго, Беларусь вінаватая Расіі за мазут 574 мільярды 888 мільёнаў беларускіх рублёў (больша за 18 мільёнаў долараў) і 118 мільярдаў 185 мільёнаў (3,75 мільёна *USD*) — за электраэнергію.

*БелаПАН*

## Жыццё на цэнты

**У першым квартале гэтага года 10% самых забяспечаных жыхароў Беларусі мелі на руках чвэрць усіх грашовых рэсурсаў насельніцтва, а на долю 10% самых бедных людзей прыпадала толькі 3,7% грошай.**

Пры гэтым, па звестках міністэрства статыстыкі і аналізу, на пакупку тавараў і паслуг беларусы патрацілі больш як 73% сваіх даходаў. На абавязковыя плацяжы і ўзносы (падаткі, пошліны, абавязковае страхаванне і да т.п.) было патрачана 6,3%, на зберажэнні ва ўкладах і каштоўных паперах, пакупку валюты — 19,1% наяўных беларускіх рублёў.

Зрэшты, абстрактныя лічбы структуры расходаў мала што гавораць недаведчанаму ў эканоміцы чалавеку. Між тым 13,2% насельніцтва краіны — амаль паўтара мільёны чалавек — ухітраецца выжыць, маючы грашовы даход менш як 27,5 долара ЗША у месяц на чалавека (менш за долар у дзень!). Асноўная частка беларусаў (61,6%) мелі да 64 долараў у месяц. Амаль чвэрць жыхароў трапілі ў катэгорыю адносна забяспечаных: на іх долю прыпадала ў месяц да 128 долараў. І толькі ў 2,6% даходы складалі больш як 128 амерыканскіх долараў у месяц.

*БелаПАН*

## Маладых «патрыётаў» звазілі на піва

**У мінулую сераду ў Гродне лукашэнкаўскія патрыёты правялі ўстаноўчую канферэнцыю абласной арганізацыі Беларускага патрыятычнага саюза моладзі.**

З палымянай прамовай выступіў старшыня аблвыканкама Аляксандр Дубко. Ён сказаў, што старэйшае пакаленне ўскладае на БПСМ вялікія спадзяванні. Па словах Дубко, раней ва ўладзе былі дэмакраты, у якіх у галаве «не хватало извилин», і цяпер іх памылкі давядзецца выпраўляць маладым.

Канферэнцыя адбывалася ў абласным драматычным тэатры — з буфетамі, півам і аркестрам. Дэлегатаў з усёй вобласці (а такіх было зарэгістравана 411 чалавек) прывезлі на сходку за дзяржаўны кошт.

**М.М.**





**Гэтыя здымкі былі зробленыя ў Нясвіжскім раёне на наступны дзень пасля ўрагану. Тысячы людзей у Мінскай і Брэсцкай абласцях засталіся без даху над галавою. Каб адбудаваць разбуранае ў «чорны панядзелак» патрэбна каля двух трыльёнаў рублёў.**

## У вёсках – гора, у Мінску – свята

***Толькі на адну Мінскую вобласць трэба выдаткаваць не менш за 1 трыльён рублёў, каб ліквідаваць наступствы, якія прынёс ураган***

На Міншчыне пашкоджана 2.327 жылых дамоў, а 318 — разбураныя цалкам. Ушчэнт разваленыя таксама 262 вытворчыя памяшканні і яшчэ 837 патрабуюць рамонту. Паведамленні афіцыйнай прэсы пра тое, нібыта *«для ликвидации последствий урагана выделены необходимые средства»* — не адпавядаюць сапраўднасці. Тыя грошы, якія даў Савет міністраў (9 мільярдаў рублёў Мінскаму аблвыканкаму і 5 мільярдаў — Брэсцкаму) — гэта дробязь у параўнанні з рэальнымі патрэбамі. Гэтага мала нават на бензін, каб разабраць завалы. Аднаму Івацэвіцкаму раёну, дзе пашкоджана прыкладна 70 працэнтаў вясковых дамоў, трэба 100 мільярдаў рублёў, столькі ж — Іванаўскаму раёну. Менавіта гэтыя раёны Брэсцкай вобласці пацярпелі больш за ўсё. У Іванаўскім раёне стыхія пакінула разбурэнні ў 99-ці вёсках. У в.Моладава, напрыклад, пашкоджана 265 прыватных дамоў і праваслаўная царква, з якой знесла купал разам са звонам. У раёне амаль цалкам знішчана каля 10 тысяч гектараў збожжавых. Бяда абмінула толькі тры населеныя пункты гэтага раёна — вёскі Опаль, Лядавічы, Туляцічы. Вельмі моцна пацярпеў Ганцавіцкі раён, дзе хуткасць ветру была рэкорднай — 32 метры ў секунду.

У сераду ў Беларусі знаходзілася місія расійскага міністэрства па надзвычайных сітуацыях на чале з міністрам Сяргеем Шойгу, якога накіраваў у Беларусь Анатоль Чубайс. С.Шойгу паабяцаў, што Расія дапаможа будаўнічымі матэрыяламі і абсталяваннем для ліній электраперадач і трансфарматарных падстанцыяў.

Учора на брыфінгу ў МЗС намеснік міністра Хвастоў сказаў, што Беларусь не будзе звяртацца па дапамогу да іншых дзяржаваў, а справіцца з бядою сама. Але, маўляў, адмаўляцца не будзем, калі нехта сам захоча дапамагчы. Італія, у прыватнасці, ужо заявіла, што накіроўвае ў Беларусь гуманітарны груз (прадукты) для пацярпелых ад урагану. Па словах Хвастова, Кітай збіраецца аказаць фінансавую дапамогу.

А ў той самы час, калі ў МЗС праходзіў брыфінг, побач (над праспектам Скарыны) праносіліся баявыя самалёты на вельмі-вельмі нізкай вышыні — войскі трэніруюцца для ўдзелу ў святкаванні лукашэнкаўскага дня рэспублікі. БНФ і сацыял-дэмакраты ўжо адрэагавалі на гэты конт сваімі заявамі, расцаніўшы запланаванае пампезнае святкаванне як «пір падчас чумы».

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## У чаканні суда

Мы неаднаразова пісалі пра лёс пяці ўдзельнікаў «мінскай вясны», якія ў сакавіку—красавіку апынуліся ў мінскім следчым ізалятары па абвінавачванні ў супраціўленні работнікам міліцыі. Адзін з іх, Аляксандр Цішук, ужо асуджаны на 2 гады папраўчых работ. Уладзімір Лыско, Аляксей Коваль і Аляксандр Бондараў нядаўна былі выпушчаныя з турмы пад падпіску аб нявыездзе, а 45-гадовы мастак Рыгор Кійко дагэтуль знаходзіцца ў сценах сумнавядомай «Валадаркі».

Пасля вызвалення Аляксей Коваль згадзіўся адказаць на пытанні карэспандэнта СВАБОДЫ.

**— Што было самым цяжкім за паўтара месяца вашага знаходжання ў турме?**

— Псіхалагічныя ўмовы, стан нявызначанасці, у якім мы знаходзіліся. За сем тыдняў майго зняволення я толькі адзін раз сустрэўся са сваім следчым і аб сваім будучым лёсе мог толькі здагадвацца. Наколькі я ведаю, за гэты час ніякіх следчых дзеянняў па маёй справе не праводзілася. У нашай камеры было нямала людзей, якія ў такім стане знаходзяцца па 15 месяцаў. Адзін з маіх сукамернікаў не вытрымаў і спрабаваў скончыць жыццё самагубствам — яго ледзь выратавалі.

**— Якія адносіны да зняволеных з боку адміністрацыі ізалятара?**

— Проста скоцкія. Мяне, напрыклад, збілі ахоўнікі і пасадзілі на ноч у карцэр толькі за тое, што я блізка падышоў да «вочка» ў дзвярах камеры, іншых таксама збівалі за самыя нязначныя праступкі.

**— Вы не шкадуеце, што бралі ўдзел у апазіцыйных акцыях?**

— Не. А тое, што трапіў у турму, дык ад гэтага не застрахаваны ніводны дэманстрант, проста трэба памятаць, пры якім рэжыме мы жывём. Следства супраць нас працягваецца і, відавочна, будзе суд.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Мэблю – на штрафы

**Ліст, які патрабуе неадкладнага спагнання штрафаў па «палітычных» справах, паступіў у раённыя суды Магілёва з мясцовай вертыкалі.**

Судовыя выканаўцы актывізаваліся. Днямі была апісаная маёмасць кіраўніка Магілёўскай філіі Беларускага Хельсінкскага камітэта Валерыя Сівухі. У яго апісалі мэблю ў спальні, сталовы гарнітур, тэлевізар і г.д. Чамусьці не трапіла ў спіс на магчымую канфіскацыю ў лік штрафу сценка «Чараўніца»: яе пакінулі на «адказнае захаванне» Сівухі. Неўзабаве, калі не будзе заплочаны штраф, паабяцаў заявіцца судовы выканаўца і да Сяргея Абадоўскага, кіраўніка мясцовай арганізацыі Свабодных прафсаюзаў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Цэнтр для «зэкаў»

**У Бабруйску вырашана стварыць цэнтр рэсацыялізацыі былых зняволеных, якія выходзяць на свабоду.**

Як паведаміў намеснік начальніка Магілёўскай абласной міліцыі палкоўнік Павел Шышоў, у гэтым цэнтры будзе прадастаўляцца начлег і харчаванне нядаўнім «зэкам», а супрацоўнікі цэнтра дапамогуць ім у працаўладкаванні. Такі цэнтр вельмі патрэбны, але пакуль мясцовы гарвыканкам не прадаставіў памяшкання пад цэнтр, дый сродкаў на яго ўтварэнне яшчэ не выдзелена. Так што праект можа застацца на паперы.

**Іван ЗАСАДА**

*Пётр Краўчанка:*

## «Савет Еўропы – не карны орган»

**Як вядома, на гэтым тыдні палітычны камітэт Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы абмяркоўваў сітуацыю ў Беларусі. У абмеркаванні прынялі ўдзел і дзве дэлегацыі з Беларусі — адну з іх, дэлегацыю Вярхоўнага Савета 13-га склікання, узначальваў дэпутат Пётр Краўчанка, былы міністр замежных справаў.**

Каментуючы вынікі паседжання, Пётр Краўчанка адзначыў, што сістэма ацэнак сітуацыі ў Беларусі з боку Савета Еўропы не змянілася. *«Па-ранейшаму Савет Еўропы не прызнае лукашэнкаўскі нацыянальны сход і адзіным легітымным заканадаўчым органам у Беларусі лічыць Вярхоўны Савет 13-га склікання»*, — заявіў дэпутат. Той факт, што еўрапейцы ўсё ж выслухалі кароткае паведамленне дэлегацыі Нацыянальнага сходу, якую ўзначальваў Юрый Малумаў, Краўчанка ацэньвае як звычайны падыход пры правядзенні своеасаблівага маніторынгу сітуацыі: *«Ніякім чынам гэта не прыкмета таго, што Еўропа паварочваецца да лукашэнкаўскага парламента»*.

Пётр Краўчанка абверг апублікаваную ў беларускіх СМІ інфармацыю аб тым, што старшыня ПАСЕ Лені Фішэр усклала адказнасць за палітычны крызіс у Беларусі на абодва бакі — прэзідэнцкі і парламенцкі. *«Аб падзеле адказнасці, быццам бы зробленым спадарыняй Фішэр, я пачуў упершыню ў Беларусі»*, — заявіў СВАБОДЗЕ былы міністр замежных справаў. Па яго́ных словах, у Савеце Еўропы добра ведаюць сітуацыю ў Беларусі і нават у дыпламатычных мэтах старшыня ПАСЕ не зробіць такую памылковую агаворку. Не падзяліў Пётр Краўчанка і аптымізму некаторых паведамленняў са Страсбурга, згодна з якімі кіраўніцтва Савета Еўропы бачыць магчымым правядзенне выбараў у Беларусі ўжо ў гэтым годзе. Краўчанка паведаміў, што факт пазбаўлення дэпутацкіх паўнамоцтваў тых народных абраннікаў у Беларусі, якія захавалі адданасць Канстытуцыі 1994 года, выклікаў абурэнне абсалютнай большасці Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы —цяпер пачаўся збор подпісаў пад заявай еўрапейскіх парламентарыяў супраць гэтага ганебнага дзеяння.

Па словах Краўчанкі, у Страсбургу добра разумеюць, што ў бліжэйшы час правесці сапраўды дэмакратычныя выбары ў Беларусі немагчыма. Гэтаму, перш за ўсё, не спрыяюць дзяржаўная манаполія ў электронных СМІ і адсутнасць раўнавагі розных галінаў улады. *«Наколькі я магу меркаваць, кіраўніцтва Савета Еўропы бачыць галоўную мэту трохбаковых перамоваў у нашай краіне менавіта ў тым, каб дасягнуць балансу ўладаў»*, — заявіў Пётр Краўчанка. Аднак пакуль, па яго́ных словах, еўрапейцы канстатуюць адсутнасць усякіх прыкмет гатоўнасці беларускага кіраўніцтва ісці на такія карэкціроўкі.

І ўсё ж кіраўнік дэлегацыі Вярхоўнага Савета станоўча ацаніў вынікі паездкі ў Страсбург. *«Той, хто чакае хуткіх зменаў, спадзеючыся на жорсткую пазіцыю Савета Еўропы, памыляецца, бо гэта кансультатыўная еўрапейская структура, а не карны орган. Аднак нельга і змяншаць ягонага ўплыву. Еўропа выпрацавала сваю пазіцыю адносна беларускага рэжыму, гэта пазіцыя не змяняецца, і з цягам часу вынік будзе»*, — упэўнены Пётр Краўчанка.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## За мех бульбы – у турму

**Цікавыя статыстычныя лічбы адносна колькасці зняволеных, якія знаходзяцца ў беларускіх турмах, паведамілі на прэс-канферэнцыі прадстаўнікі Беларускага Хельсінкскага камітэта.**

Сёння ў нашай краіне каля 56 тысяч чалавек адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі і прыкладна 8 тысяч знаходзяцца ў спецкамендатурах (вольныя пасяленні). Гэта значыць, што на кожныя 100 тысяч жыхароў Беларусі прыпадае 410 зняволеных. Для параўнання: у Малдове гэтая лічба складае 293 чалавека на 100 тысяч, прыкладна столькі ж на Украіне і 250 чалавек у краінах Балтыі.

Можа скласціся ўражанне, што Беларусь — самая крымінальная краіна Усходняй Еўропы. Аднак, на думку старшыні пенетэнцыярнай камісіі БХК Валерыя Філіпава, такое становішча склалася таму, што ў Беларусі, у адрозненне ад нашых суседзяў, у турмах і калоніях знаходзіцца шмат людзей за нязначныя злачынствы. Напрыклад, у калоніях знаходзяцца вязні, якіх асудзілі на 2—3 гады за скрадзены мех бульбы, 200 грамаў каўбасы ці пачак цукерак.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Обман с участием государства

В 1994 году я получил свои чеки «Имущество». Чеки, как известно, выдавала родная белорусская власть. Потом люди (пенсионеры особенно) продавали эти билетики за пару тысяч рублей: кто на молоко с хлебцем, кто на водку и закусь-селедку...

Я свои чеки продавать не стал. Различные фирмы приглашали вложить чеки в их дело — поменять на акции. Я выбрал минскую фирму «Супримэкс».

Спустя год я поехал искать свою фирму «Супримэкс» в Минск, по ул.Мельникайте, 2, как значилось в договоре, но ее там не оказалось. И я был вынужден обратиться в прокуратуру с просьбой разыскать этот «Супримэкс» и помочь мне вернуть мои чеки «Имущество» — про дивиденды речи уже нет. Прокуратура переправила мое заявление в мингосимущество, а товарищи из этого ведомства отвечают:

*«В соответствии с решением коллегии Мингосимущества от 18.02.97 г. за допущенные нарушения в работе фонду «Супримэкс» отменена лицензия на право осуществлять деятельность, а его местонахождение в настоящее время неизвестно.*

*Начальник управления чековой приватизации З.С.Шевченко.»*

Что же это за власть, которая сначала создает приватизационные «фокусы», затем эти «фокусы» запрещает, а люди оказываются обманутыми? Ведь власть выдавала фирмам лицензии, она же и забирала. В любой цивилизованной стране власть вступилась бы за обманутых участников государственной программы приватизации. Видно, мы действительно за цивилизованным миром не пойдем.

**Каленик УДОВИДЧИК,**
*ветеран войны и труда, Пинский район*

## Дикая охота

Здравствуйте, редакция СВАБОДЫ! По сей день у меня перед глазами стоит страшная картина.

Это было два месяца назад. У нас в городе отстреливали собак. В это время мы шли в школу. Было светло. Остановился фургон, выскочили мужики и, ругаясь матом, начали стрелять. Одну собаку убили, другую ранили. Схватили раненую собаку за лапы и головой о забор. Кровь, визг! Побросали трупы в фургон и уехали. А мы еще долго стояли возле лужи крови, как парализованные. Это что, нас учат насилию?

**Алексей БОГДАНОВИЧ,**
*12 лет, г.Осиповичи*

## Чаму я не сяджу дома

Добры дзень, СВАБОДА!

Вось ужо другі год разам са сваімі суайчыннікамі іду я на плошчы сталіцы, каб сказаць ненавіснаму мне рэжыму сваё «не». Апошнім часам гэта сапраўды небяспечна, але я думаю, лепш адседзець колькі ў лукашэнкаўскай турме, чым жыць усё жыццё ў галечы і бяспраўі. Цяжкая амонаўская дубінка пакуль не была на маіх нямоцных плячах, але я гатовая і да гэтага.

Мы сапраўды мужнеем у барацьбе, бо губляць нам няма чаго. І не называйце мой народ рабскім. Я даўно сачу за эвалюцыяй думак маіх землякоў і бачу: на людзей памалу сыходзіць прасвятленне. Беларус доўга думае, і ў іншым выпадку гэта няблага. Але не цяпер. Уявіце: трапіў чалавек у багну і, замест таго, каб ратавацца, клікаць на дапамогу, пачынае разважаць, перабіраць варыянты, шукаць станоўчыя моманты свайго становішча.

Людзі, не чакайце, што 5—10 тысяч мінчукоў заваююць для вас шчаслівае жыццё. Не сядзіце ў сваіх кватэрках, калі па вашай вуліцы ідзе калона пад нацыянальнымі сцягамі. Крыўдна, што пазіцыя «мая хата з краю» такая прывабная.

Я звяртаюся і да вас, хлопцы з дубінкамі! Гісторыя вучыць: зло непазбежна будзе пераможана. Падумайце пра сваю будучыню. Сівавалосыя лукашэнкаўскія падхалімы зжываюць свой век — але і яны будуць пакараныя. У вас жа наперадзе — жыццё. Хочаце, каб яно было годным — беражыце свае рукі ад крыві нявінных людзей.

**Галіна ШЫШКІНА,**
*г.Мінск*

## Каб жыць у шчасці, трэба...

Неяк ехаў я з Веткі рэйсавым аўтобусам Няглюбка—Гомель. Маёй суседкай была кабета паважнага ўзросту, вельмі гаваркая. «Ат, загубіла я свае вочы буракамі», — сказала жанчына. На маё нямое запытанне патлумачыла: «Ды за нашымі агародамі летась калгас буракі пасеяў. Вельмі добрыя ўрадзілі. Вось уся вуліца па восені, на змярканні, з мяшком ды дзяружкамі — у тыя буракі. І я туды ж. Ды да аднаго суседа з горада сын прыехаў, другі сам яшчэ малады, а я — адна, але ж буракоў і мне трэба: і кароўку трымаю, і парсючка. Ведама ж — дачка з зяцем ды ўнукамі жыве ў Гомлі. Вось так і надарвала я свае вочы. Зіму якнебудзь пражыла, а хутка вясна, працы — з галавой. Наш фершал кажа, што пачалося нейкае адкалупванне ў вачах ад цяжкай працы. І я адчула: гэта ад буракоў».

Я не вытрымаў і спытаўся пра набалелае: за каго яна галасавала? І пачуў у адказ: «Ну, вядома ж, за Лукашэнку. Бо і калгас трымае, і буракі сее. А калі там уродзіць — дык і ў нас ёсць. Каб толькі не вочы, то й добра ўсё было б».

Вось якое яно, калгаснае «добра» — абы было дзе ўкрасці.

**Р.ЖЫГАЛКІН,**
*рабочы, г.Гомель*

## «Бацькаўшчына» збірае з'езд

26—27 ліпеня гэтага года ў Мінску адбудзецца другі З'езд беларусаў свету. На спатканне прыедуць нашы землякі з Аўстраліі, Амерыкі, Канады, Англіі, Польшчы, краін Балтыі, Расіі, Сярэдняй Азіі, якіх хвалюе захаванне культуры, мовы, гісторыі нашай роднай Беларусі-маці.

Ініцыятарам правядзення з'езда выступіла грамадская арганізацыя Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».

Жадаючых аказаць фінансавую падтрымку ў правядзенні гэтага адказнага для ўсіх нас мерапрыемства і ўзяць у ім удзел просім паведаміць па тэл./факсе (017) 276-91-94.

*Аргкамітэт*

## «Да здравствует то, благодаря чему...»

Не гляджу зусім у апошні час сваё беларускае (якое там беларускае!) тэлебачанне. Мабыць, як і некаторыя іншыя чытачы СВАБОДЫ. Але расійскае час ад часу ўключаю. І вось уразіла адна нядаўняя перадача, дзе распавядалася пра калонію, якая знаходзіцца пад Новасібірскам і ў якой дажываюць свой век састарэлыя ўжо рэцыдывісты — злодзеі, гвалтаўнікі, рабаўнікі. Адзін кадр страшнейшы за другі: адчужаныя, з патухлымі вачыма твары; няўдаліца-гарманіст, які вывучыў і іграе нудліва толькі тры мелодыі; загадзя вырытыя магілы... А пры ўваходзе на тэрыторыю калоніі — вялікі самаробны плакат: *«Да здравствует то, благодаря чему мы, несмотря ни на что!»* Аператар і вядучы (перадача паказвалася ў праграме «Зеркало» Сванідзе) двойчы звярнулі ўвагу на гэты дзіўны плакат. Пераглянуліся мы з сынам: маўляў, што за надпіс такі? Так жартуюць яны, гэтыя рэцыдывісты, ці што? І тут раптам мне падумалася, што ў гэтым чорным гумары ёсць праўда, якая стасуецца і да нас, да нашага сённяшняга беларускага жыцця. Сапраўды, толькі і чуеш: «Да здравствует то, благодаря чему!..» І матэрыяльна, і маральна жывем усё горш і горш, ніякай упэўненасці ў заўтрашнім дні (нават не ведаем, грамадзянамі якой краіны з'яўляемся), а штатныя прапагандысты ўсё цягнуць сваю «здравіцу»: «Да здравствует то!..» Праўда, не дадаюць яшчэ: «Толькі народ неяк пакуль жыве, нягледзячы ні на што».

Зрэшты, нам, беларусам, як кажуць, не прывыкаць. Яшчэ Максім Багдановіч з болем зазначаў у сваім звароце да народа:

*Збудзіўшысь ад грознай бяды,*
*Увесь поўны смяротнай жуды,*
*Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»*
*І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.*

**І.ДЗЕМЯШКЕВІЧ,**
*ветэран вайны і працы, г.Мінск*

## Нелитературные параллели из любимых авторов

Недавно, перечитывая моих любимых братьев Стругацких, я обнаружила поразительную аналогию событий в романе «Трудно быть богом» с тем, что ныне происходит в Беларуси. Не претендуя на роль литературного критика, я попытаюсь обойтись без излишних комментариев, а просто немного поцитирую.

*«...Дон Рэба! Не высокий, но и не низенький, не толстый и не очень тощий, не слишком густоволос, но и далеко не лыс. В движениях не резок, но и не медлителен, с лицом, которое не запоминается, которое похоже сразу на тысячи лиц. Внимательный собеседник, не блещущий, правда, никакими особенными мыслями... Три года назад он вынырнул из каких-то заплесневелых подвалов дворцовой канцелярии, мелкий, незаметный чиновник... Потом тогдашний первый министр вдруг был арестован и казнен, погибли несколько сановников и, словно на их трупах, вырос исполинским белым грибом этот цепкий, беспощадный гений посредственности. Он никто. Он ниоткуда. Это не могучий ум при слабом государе, каких знала история, не великий и страшный человек, отдающий всю жизнь идее борьбы за объединение страны во имя автократии. Это не златолюбец-временщик, думающий лишь о золоте и о бабах, убивающий направо и налево ради власти и властвующий ради того, чтобы убивать. Шепотом поговаривают даже, что он и не дон Рэба вовсе, что дон Рэба — совсем другой человек, а этот —бог знает кто, оборотень, двойник, подменыш...»*

Кстати, хочу заметить, что изначально имя Рэбы было задумано как «Рэбия», т.е. прием аллюзии — намек на личность Лаврентия Берии. Так как намек этот достаточно прозрачен, Стругацкие сократили имя на одну букву, дабы не иметь проблем с цензурой, да и не только с цензурой. (Мне кажется, живи авторы в Беларуси 90-х годов, они бы назвали своего персонажа слегка иначе.) Цитирую дальше:

*«Что он ни задумывал, все проваливалось... Он упразднил министерства, ведающие образованием...»* (Вспомните о представительстве Фонда Сороса в Беларуси.) *«... учредил министерство охраны короны, снял с правительственных постов родовую аристократию и немногих ученых, окончательно развалил экономику...»* (Курс белорусского рубля по отношению к доллару сегодня составил... Не буду писать сколько, потому что пока мое письмо дойдет в Минск, цифра будет уже другая.) *«...написал трактат «О скотской сущности земледельца» и организовал охранную гвардию — «Серые роты»* (А почему не зелено-камуфляжные?) *«...За Гитлером стояли монополии. За доном Рэбой не стоял никто, и было очевидно, что штурмовики в конце концов сожрут его, как муху. Но он продолжал крутить и вертеть, нагромождать нелепость на нелепость, выкручивался, словно старался обмануть самого себя, словно не знал ничего, кроме параноической задачи — истребить культуру».*

Чтобы не заканчивать в минорном тоне, снова вспомню Стругацких: *«Человек есть объективный носитель разума: все, что мешает человеку развивать разум, — зло, и зло это надлежит устранять в кратчайшие сроки любым путем».*

**Настасья РУМАТА**

## Радкі з лістоў

**К НАМ В КОЛХОЗ** несколько раз приезжали два вертикальщика: один из района, второй из области. Районный, когда говорит с колхозниками или нашим начальством, все время матерится — не стесняется даже женщин. А вот областной покультурнее, не матерится, зато совершенно непонятно, что он хочет сказать.

**М.РАЧКОВСКАЯ,**
*Ошмянский р-н, Гродненская область*

**НЕКОТОРЫЕ НАШИ ДЕМОКРАТЫ-ОППОЗИЦИОНЕРЫ** собрали недавно (пусть и символическую сумму) деньги для матерей российских солдат, погибших в Чечне. Мне искренне жаль этих парней и их матерей. Но мне кажется, если уж и собирать средства, то — для чеченских детей, ставших калеками и сиротами в этой чудовищной войне. Даже как символический жест, это было бы морально более оправданно.

**В.ПОНОМАРЕНКО,**
*капитан дальнего плавания*

**НА ПРЕЗИДЕНТСКИХ ВЫБОРАХ** в 1994 году из шести кандидатов был один-единственный верующий христианин. Но народ избрал самого лукавого из пяти кандидатов-атеистов. Впрочем, если бы белорусам сам Иисус Христос предстал кандидатом в президенты, то они его бы снова распяли — например, за то, что он неженатый. А сейчас сам «лукавый» совершает возмездие над белорусами.

**ДРОБЫШЕВ С.Г.,**
*г.Гомель*

**Я ВУЧУСЯ Ў ШКОЛЕ** і, здаецца, нічога не разумею ў палітыцы. Але хачу выказаць сваё меркаванне наконт лукашэнкаўскіх міліцыянтаў. На тое, што яны вытвараюць на вуліцах, глядзець жудасна. Б'юць усіх без разбору: жанчын, старых, сівых дзядоў. Гэтыя старыя ваявалі, пралівалі сваю кроў, каб сённяшняму пакаленню жылося свабодна. А яны іх — палкамі...

**Вольга КУКЛА,**
*г.Мінск*

**Вячеслав ОРГИШ**
**доктор философских наук**

*К трехлетию правления Александра Лукашенко*

# Горькие плоды

В конце XIX века английский писатель Оскар Уайльд высказал безупречную мысль: *«Циник знает всему цену, но не знает ценности»*. В конце XX века белорусский президент Александр Лукашенко стал образцовым воплощением этого афоризма. Неэффективные и зачастую разрушительные властные импульсы, которые он с упорством Сизифа посылает в экономику, политику, социальную сферу, за три года довели белорусское общество до состояния крайнего упадка, до национальной катастрофы.

Несомненно, Лукашенко знает истинную цену своему правлению, хорошо осведомлен о тех горьких плодах нищеты и отчаяния, которые уже пожинает и еще пожнет белорусский народ под его «умелым» руководством. Тем не менее, вопреки очевидным фактам, он, как некогда «отец всех народов» Иосиф Сталин, цинично и назойливо вещает о том, что в Беларуси жить стало лучше, жить стало веселей.

## 1. Слова без дел – пустые звуки

Рассчитывая на то, что в головах рядовых граждан, не слишком разбирающихся в хитросплетениях экономической и политической жизни, его лукавые речи о росте народного благополучия ассоциируются с правдой и он будет возвеличен за собственный цинизм, Лукашенко не устает твердить: «Халва, халва...». Однако народ соловьиными баснями не накормишь. Народная мудрость давно уяснила, что сколько ни кричи: «Халва, халва», во рту слаще не станет. Слова надо подкреплять реальными делами, а их у белорусского правителя нет. Белорусская экономика продолжает стагнировать, экономического роста нет, президентские заявления о положительных сдвигах на макроэкономическом уровне в действительности — не более чем словесная трескотня.

Спустя три года Беларусь, управляемая политическим и экономическим «гением» Лукашенко, окончательно перешла черту безопасного развития событий. Дальнейшая жизнь — это существование в условиях общенациональной катастрофы и мучительных поисков выхода из нее. Предлагаемые «лидером всех славян» рецепты «спасения» показали свою полную несостоятельность.

На исходе второго тысячелетия расположенное в центре процветающей Европы белорусское государство оказалось фактическим банкротом. Отсутствие реальных рыночных преобразований, государственная политика удушения частной инициативы, ставка на устарелые формы хозяйствования, бездарная внешняя политика привели к тому, что Беларусь превратилась в больную, обремененную хроническими долгами страну.

Неизбежным и, к несчастью, самым болезненным для народа следствием потерпевшей фиаско политики Лукашенко стало резкое обнищание широких слоев белорусского населения, катастрофическое обострение демографических проблем. Чтобы не давать повода для упреков в необъективности и злопыхательстве по отношению к «всенародноизбранному», обратимся к фактическому материалу. Приводимые ниже сведения в основном почерпнуты из официальных источников, подготовленных Министерством статистики и анализа Беларуси. Источники эти таковы: *1. Население Республики Беларусь: Статсборник. Мн.: Минстат РБ, 1995; 2. Беларусь: Лицом к человеку. Национальный отчет о человеческом развитии 1995. Мн.: ПРООН, 1995; 3. Беларусь: Среда для человека. Национальный отчет о человеческом развитии 1996. Мн.: ПРООН, 1996; 4. Шахотько Л.П. Население Республики Беларусь в конце XX века. Мн.: НИИ статистики при Минстате РБ, 1996.*

## 2. С каждым годом белорусов становится меньше

Число жителей земного шара стремительно увеличивается. По прогнозам демографов, к 2000 году наша планета преодолеет шестимиллиардный рубеж.

А что же Беларусь? Только за один 1996 год численность нашего населения сократилась на 37,4 тыс. и на начало 1997 года составила 10 млн. 236 тыс. человек.

Постепенное снижение темпов прироста населения отмечалось еще в 70-е годы. Но все же рождаемость тогда превышала естественную смертность. Еще в 1990 году родилось на 32,6 тыс. человек больше, чем умерло. Случайно или нет, но именно в годы президентского правления показатели демографической беды начали расти. В 1993 году впервые количество родившихся было на 11,2 тыс. меньше количества умерших. Но уже в 1996 году эта цифра выросла в 3,5 раза.

Апокалиптическая картина стремительной депопуляции населения Беларуси ныне складывается как за счет снижения рождаемости (в 1996 году появилось на свет 95,8 тыс. детей, тогда как в 1993 году этот показатель составлял 117,4 тыс.), так и за счет роста смертности, которая в 1993 году находилась на отметке 128,6 тыс., а в 1996 году поднялась до 133,4 тыс.




На фоне демографического упадка народонаселения Беларуси в глаза бросается эволюция его возрастной структуры в сторону постарения, увеличения слоя граждан пенсионного возраста. Если в 1990 году этот слой составлял 19,6% населения, то в 1996 он вырос до 21,1%. Таким образом, число пенсионеров вплотную приблизилось к численности лиц до 16 лет, которые составляют 23,1% населения. Естественно, это резко увеличивает нагрузки трудоспособного населения. Ситуация складывается поистине удручающая. **В прошлом году на 1.000 граждан трудоспособного возраста приходился 791 человек в нетрудоспособном возрасте.** Расширение прослойки пенсионеров автоматически увеличивает расходы на социальное содержание и снижает число занятых в производстве, увеличивает налоговое бремя на каждого работающего.

Как ни парадоксально может прозвучать, но деформация структуры народонаселения Беларуси в сторону постарения на руку президенту. Социологические опросы показывают, что значительное большинство пенсионеров поддерживает его консервативный необольшевистский курс. Выходит, что на демографическом кризисе Лукашенко имеет политические дивиденды. Чем сильнее оказывается перекос демографической структуры в сторону пожилых граждан, тем прочнее делается его социальная база, тем быстрее растет число его приверженцев.

## 3. Что теряет народ, поддерживая своего кумира

Мнения, подобные тому, что высказал Артем Лошак в газете СВАБОДА 23 мая 1997 года (№ 54), еще не редки. *«Что же теряют мои уважаемые крестьяне и рабочие,* — спрашивает он, *— поддерживая своего кумира, президента? Или что потеряли они, отказывая в поддержке демократам? В экономическом плане – ровным счетом ничего не обрели, — но и не теряют».*

Однако беспристрастная статистика свидетельствует о том, что в период президентского правления произошло резкое падение уровня жизни белорусов. Сегодня белорусская семья из трех человек (при условии, что двое из них трудятся и получают среднюю по народному хозяйству зарплату) имеет среднедушевой доход ниже установленного минимального потребительского бюджета (МПБ). Это значит, что доходы такой семьи не покрывают необходимых расходов на приобретение товаров и услуг для поддержания нормального человеческого существования.

В ценах мая 1997 года в Беларуси стоимость минимально необходимого набора товаров и услуг (того, что еще называют потребительской корзиной) в расчете на одного члена семьи из 4-х человек составляла 1 млн. 710 тыс. рублей (примерно 60 долл. США). Но даже и эта скромная сумма недоступна большинству населения. Данные статистики говорят о том, что в настоящее время **две трети белорусов живут за чертой бедности**. Их среднедушевой доход составляет только 60% и ниже минимального потребительского бюджета.

О стремительном росте нищеты за годы президентского правления свидетельствует и то, что количество населения, имеющего среднедушевой доход в семье больше 1 млн. 600 тыс. рублей, в 1996 году сократилось до 10%. **Наибольший рост армии бедняков, которая за последние пять лет увеличилась более чем в 20 раз, приходится на последние три года.**

В результате инфляции, которую президент клялся обуздать, но так и не обуздал, потребительские цены растут заметно быстрее, чем реальный денежный доход населения. За предыдущие пять лет он снизился почти в два раза (на 44%), но львиная доля этого снижения припадает на президентскую трехлетку.

Отсутствие экономических реформ, топтание на месте, нежелание менять что-либо в насквозь прогнившем коммуно-советском механизме хозяйствования в сочетании с неразумной инвестиционной политикой привели к тому, что ВВП на душу населения в Беларуси сократился в 1,5 раза. Теперь по этому показателю мы можем законно «гордиться» тем, что находимся в одном ряду со слаборазвитыми странами Азии и Африки. На душу населения у нас производится в 10 раз меньше, чем в среднестатистической западноевропейской стране.

Хотя номинальные показатели величины доходов в денежном выражении вроде бы растут, тем не менее покупательные возможности людей три года обвально снижаются. Именно в 1994 году денежные доходы на душу населения обнаружили тенденцию к существенному отставанию от величины минимального потребительского бюджета. Если еще в 1993 году отношение денежного дохода к минимальному потребительскому бюджету составляло 153% (т.е. денежный доход был в 1,5 раза выше минимального потребительского бюджета), то уже в 1994 году имела место обратная пропорция, это отношение составило только 97,3%, а в 1996 году упало до 87,7%.

При этом потребительские цены выросли более чем в 50 тыс. раз, номинальные денежные доходы на человека — в 28 тыс. раз, а реальная месячная зарплата уменьшилась до уровня примерно 55% от уровня 1990 года.

Как видим, за время безумного ретроэксперимента, поставленного Лукашенко в Беларуси, страна лишилась не только возможности «распивать из кубка свободы», но и в экономическом плане народ подвергся крайнему разорению.

*(Продолжение следует)*



*ОБСЕ — Беларусь*

# Остались при своих интересах

**Как уже сообщалось, в Минске с очередным визитом побывала делегация ОБСЕ, возглавляемая личным представителем председателя этой организации Оле Бьёрингом. В ходе его встречи с министром иностранных дел РБ Иваном Антоновичем дискуссия шла главным образом вокруг возможных форм присутствия ОБСЕ в Беларуси.**

Напомним, что ранее ОБСЕ приняла решение (поддержанное Европейским Союзом) об учреждении своей постоянной миссии в Беларуси, цель которой, по словам представителей этой организации, — оказание помощи белорусским властям в их попытках соблюдать обязательства в рамках ОБСЕ и наблюдение за развитием событий в стране.

Позиция белорусской стороны по этому вопросу известна: да — официальному дипломатическому представительству ОБСЕ, нет — миссии, занимающейся мониторингом соблюдения в Беларуси прав человека. Президент А.Лукашенко, выступая недавно перед депутатами национального собрания, заявил: *«Договорились уже до того, что якобы здесь создается какая-то постоянная миссия. Мы – не Чечня, мы – не Афганистан, и мы обойдемся без всяких миссий»*.

Тогда же глава МИДа Иван Антонович сообщил журналистам, что во время его встреч в штаб-квартире ОБСЕ с личным представителем главы этой организации вопрос *«о формуле и статусе представительства ОБСЕ в Беларуси»* был будто бы улажен. В частности, как заявил министр, стороны условились, что в Минске будет учреждено информационное бюро Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе и, кроме того, Беларусь периодически будет навещать личный представитель главы ОБСЕ.

Однако то, как проходила нынешняя встреча г-д Бьёринга и Антоновича, заставляет усомниться в наличии у сторон такого единодушия. По нашим сведениям, представителю ОБСЕ и министру иностранных дел не хватило одной встречи и в тот же день была организована вторая, за ланчем. Информационное сообщение для прессы по итогам переговоров многократно правилось и переписывалось, пока наконец к концу рабочего дня не был выдан уникальный по лаконизму и отсутствию какой бы то ни было конкретики текст, повествующий о том, что *«стороны обсудили пути дальнейшей активизации отношений»*.

Сотрудники МИДа, ссылаясь на соответствующее указание министра, категорически отказывались рассказать даже о самых общих итогах переговоров. Из чего логично следует, что каждая из сторон осталась при своем мнении и при своих интересах.

Тем труднее будет президентской стороне вести разговор о признании легитимности национального собрания. На очередную сессию Парламентской ассамблеи ОБСЕ, которая пройдет в начале июля в Варшаве, вновь приглашены только депутаты Верховного Совета XIII созыва — Семен Шарецкий, Петр Кравченко и Владимир Нистюк.

**Александр ПАТУТИН**
*(«Белорусский рынок»)*

СВАБОДА
27 чэрвеня 1997 г., № 69

УКРАІНА

# Шэры сектар эканомікі стрымлівае сацыяльны выбух

Юрый ЗУШЫК, Іван СІКОРА

Ці пагражае Украіне сацыяльны выбух або — яшчэ горш — рэвалюцыя? Калі паглядзець на вынікі даследаванняў грамадскай думкі, то адказ павінен быць станоўчы. Аднак пакуль што глыбокі крызіс не прывёў Украіну да значных сацыяльных узрушэнняў.

## Ёсць гатовыя, няма ахвотных

На многіх прадпрыемствах і ў арганізацыях Украіны зарплату не плацяць па 2—6 месяцаў. Запазычанасць ужо дасягнула двух мільярдаў долараў. Сярэдні клас толькі-толькі фарміруецца, а розніца ў даходах багатых і найбяднейшых няўхільна павялічваецца. Давер да дзяржавы і ўраду імкліва падае. І ўсё ж арганізаваныя акцыі пратэсту 18 сакавіка і 1 траўня гэтага года фактычна праваліліся, прадэманстраваўшы, што людзі траціць цікавасць да публічнага выказвання сваіх патрабаванняў. Па розных звестках, у гэтых акцыях узяло ўдзел каля 10 тысяч чалавек па ўсёй Украіне. Пакінем па-за ўвагай абстрактныя катэгорыі кшталту «нацыянальнага характару ўкраінцаў». А эксперты звязваюць такую сітуацыю, калі даведзеныя да галечы работнікі не хочуць пратэставаць, з вельмі канкрэтным матэрыяльным фактарам — велізарнай доляй шэрага сектару ў эканоміцы (іначай — ценявой эканомікі) Украіны.

Сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя самымі рознымі дзяржаўнымі і незалежнымі структурамі, паказваюць: унутраная гатоўнасць людзей да публічнага выказвання пратэсту расце. Калі ў 1994 г. у сярэднім 23,3% дарослых украінцаў лічылі масавыя акцыі эфектыўнай формай эканамічнай барацьбы, у 1995 г. іх было 26,2%, то ў 1996 г. колькасць прыхільнікаў актыўнага пратэсту перасягнула 32% — амаль кожны трэці! Самыя апошнія апытанні паказваюць, што 6% гатовыя да ўдзелу ў акцыях з прымяненнем сілы. Парадокс: прыхільнікі ёсць — акцый няма.

У 1992 годзе за рысай беднасці жыло 11% насельніцтва Украіны, у 1996 —ужо 74%. Усё, вядома, адносна: мінімальны спажывецкі бюджэт сярэднестатыстычнай украінскай сям'і ацэньваецца сёння экспертамі ў 150 долараў у месяц, і каля 40% украінцаў маюць такія даходы, пра што жыхары многіх былых савецкіх рэспублік могуць толькі марыць. І ўсё ж, паводле інфармацыі незалежных даследчыцкіх цэнтраў, толькі 10% наёмных работнікаў могуць рабіць нейкія грашовыя зберажэнні, 80% могуць пакрыць штодзённыя траты «на жыццё», а яшчэ 10% — фактычна люмпены.

Насельніцтва Украіны — 52 мільёны чалавек. З іх толькі 13 мільёнаў занятыя ў вытворчасці тавараў і паслуг. На іхнім утрыманні знаходзіцца 15 мільёнаў пенсіянераў і яшчэ 8 мільёнаў занятых у невытворчым сектары. Пры гэтым есці патрабуюць яшчэ 3,5 мільёна практычна беспрацоўных і тых, хто знаходзіцца ў вымушаным (калі не сказаць прымусовым) адпачынку на сваіх прадпрыемствах. Гэта афіцыйныя лічбы дзяржаўнага цэнтра занятасці, а незалежныя эксперты лічаць, што паказчык схаванага беспрацоўя яшчэ на 3 мільёны большы. Да канца года міністр працы М.Білаблоцкі прагназуе рост афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных да 1,7 мільёна. У студзені 1997 г. іх было 516 тысяч, але толькі 307 тысяч атрымлівалі грашовую дапамогу (у сярэднім 15 долараў у месяц).

## Шэры сектар працуе лепш

Чаму так мала людзей без працы атрымліваюць афіцыйны статус беспрацоўнага? Адказ просты: «шэрая» стратэгія выжывання дае лепшыя вынікі. У сярэднім у шэрым сектары эканомікі можна зарабіць 78 долараў у месяц, а «прадуктовы кошык» на чалавека складае па ўкраінскіх цэнах 28 долараў.

Калі не кранаць адназначны крымінал, неафіцыйная эканоміка павінна разглядацца як уласна эканамічная дзейнасць — толькі не рэгуляваная законамі і падаткамі. Логіка шэрага сектара вельмі простая: не заплаціць падаткі і з гэтага мець лішнюю капейку. Зрэшты, людзі выкарыстоўваюць любую магчымасць, каб троху разжыцца за кошт дзяржавы: яны не плацяць за кватэру, ездзяць без білета ў грамадскім транспарце, крадуць на сваіх заводах напільнікі і прадаюць іх на базарах. Хто ўваходзіць у шэры сектар эканомікі, усё ж адчувае сябе крышку злодзеем (як і «заяц» у тралейбусе) — таму абураецца, злуецца, але не выходзіць на акцыі пратэсту, каб лішні раз не свяціцца. Ён выбірае шлях найменшага супраціўлення.

Па розных ацэнках (эксперты Сусветнага банка і нават эканамічнай службы ўкраінскага прэзідэнта), шэры сектар выдае ад 50% да 60% валавога ўнутранага прадукту Украіны, у той час як у пазабанкаўскай сферы абарачаецца каля 40% грашовай масы. Выснова відавочная: шэрая эканоміка працуе лепш.

Эксперты кажуць, што менавіта шэры сектар эканомікі не дае разгарэцца на Украіне масавым пратэстам. Людзі занятыя здабываннем грошай, ім не да маніфестацый. Для трох мільёнаў грамадзян «шэрыя» грошы — адзіная крыніца даходаў. І ўвогуле, афіцыйная зарплата большасці ўкраінцаў ледзь-ледзь пакрывае палову грошай, якія яны рэальна выдаткоўваюць у крамах, на базарах, на транспарце і г.д.

## Пабялее ці не?

Шэрая эканоміка — гэта факт, рэальнасць, сістэма. Яна сапраўды дае людзям даходы і магчымасць выжыць. Яна сапраўды дапамагае ўраду пазбегнуць большага галаўнога болю ад масавых акцый пратэсту. І так можа доўжыцца яшчэ нейкі час.

Але ёсць і іншы, больш эфектыўны шлях: легалізацыя шэрага сектару магла б стаць сапраўдным штуршком для адраджэння ўсёй нацыянальнай эканомікі. Пайшоўшы на гэта, дзяржава выкарыстала б унікальную магчымасць уключэння ў адкрытую, свабодную вытворчасць тавараў і паслуг лепшых рук і мазгоў. Але для гэтага трэба, каб ураду хапіла шэрага рэчыва і светлых думак.

*Тэкст атрыманы па каналах агенцтва STINA*

# Свет учора і сёння

## ЗША—Дэнвер

**АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА ЛІДЭРАЎ** сямі буйнейшых краінаў свету: ЗША, Францыі, Германіі, Вялікабрытаніі, Італіі, Канады і Японіі. На сустрэчу была запрошаная і Расія, Ельцын браў удзел, згодна з рэгламентам, у абмеркаванні эканамічных пытанняў. У апошні момант Японія выступіла супраць удзелу Расіі з-за нявырашанасці праблемы з Курыльскімі астравамі. Біл Клінтан прапанаваў прысутным узяць эканамічную мадэль ЗША за ўзор, але гэтая ідэя была адмоўна прынятая лідэрамі еўрапейскіх краінаў і Японіяй. Прэзідэнт Францыі Ж.Шырак заявіў, што *«кожная дзяржава мае сваю мадэль»*.



*Прэм'ер-міністр Хасімота, ад'язджаючы з жонкай Куміка ў Дэнвер, абяцаў японцам, што зноў запатрабуе ад Ельцына вярнуць астравы.*

## Вялікабрытанія

**НОВЫМ ЛІДЭРАМ КАНСЕРВАТЫЎНАЙ ПАРТЫІ** абраны 36-гадовы Ўільям Хэйг, які выступае супраць далучэння да Еўрапейскага грашовага саюза. Былы кіраўнік партыі «торы» Джон Мэйджар пасля сакрушальнай паразы на выбарах мусіў падаць у адстаўку.



*Едучы ў парламент, новы лідэр кансерватараў Ўільям Хэйг вітае сваіх прыхільнікаў жэстам пераможцы.*

## Іспанія

**НОВЫМ ЛІДЭРАМ** Іспанскай сацыялістычнай партыі стаў Дж.Альмунта, які замяніў Ф.Гансалеса *(на здымку)* — прэм'ер-міністра краіны з 1982 па 1996 г. Летась сацыялісты пацярпелі на выбарах паразу. У прыватнасці, яны былі абвінавачаныя ў карупцыі. Новы кіраўнік партыі разлічвае на перамогу ў наступных выбарах у 2000 г. і з'яўляецца прыхільнікам ідэяў Тоні Блэра.



## Ізраіль

**БОЛЬШАСЦЬ У КНЭСЕЦЕ** (парламенце краіны) не прагаласавала за вотум недаверу прэм'ер-міністру Нетан'яху. Гэты крок ініцыявала левая апазіцыя, якая лічыць, што цяперашні прэм'ер не ў стане кіраваць краінай.

## Албанія

**ПРЭЗІДЭНТ БЕРЫША** нарэшце забараніў дзейнасць «фінансавых пірамідаў», крах якіх прывёў краіну да грамадзянскай вайны. За рэалізацыяй закона будуць назіраць прадстаўнікі міжнародных фінансавых арганізацыяў.



*Лідэр сацыялістаў Фатас Нана заклікае прагаласаваць за ягоную партыю. Выбары ў Албаніі пасьлязаўтра, 29 чэрвеня.*

## Турцыя

**У СТАМБУЛЕ СТВОРАНАЯ** так званая «ісламская васьмёрка», куды ўвайшлі Турцыя, Іран, Пакістан, Малайзія, Бангладэш, Інданэзія, Егіпет і Нігерыя. Мэта гэтага міжнароднага ўтварэння — «падтрыманне міру, стварэнне эканамічнага супрацоўніцтва і ўмацаванне дэмакратыі». Палітычныя назіральнікі адзначаюць, што «васьмёрка» створаная як супрацьвага заходняй «вялікай сямёрцы».

## Індыя

**УРАД ВЫРАШЫЎ** аб'явіць амністыю ўладальнікам «брудных» грошай, калі тыя прадэкларуюць свае даходы падатковай інспекцыі. Прыбыткі будуць абкладацца падаткамі па мінімальных стаўках: 30% — з прыватных асобаў, 35% — з кампаніяў. Па меркаваннях экспертаў, гэта не толькі апошні шанц для парушальнікаў, але і добрая крыніца папаўнення бюджэту.

## Вялікабрытанія

**ЗАКОНЧЫЎСЯ САМЫ ДОЎГІ** ў краіне судовы працэс, што працягваўся 314 дзён. У выніку кампанія *McDonald's* выйграла 98 тысяч долараў у якасці кампенсацыі ад двух прыхільнікаў барацьбы за чысціню навакольнага асяроддзя, даказаўшы, што яны ўзвялі паклёп на кампанію «хуткай ежы».

# Турэцкі марш іграюць генералы

## *Знаходзячыся паміж Еўропай і Азіяй, Турцыя стала тым месцам, дзе сутыкнуліся два светапогляды — розныя, як і самі кантыненты*

У 20-х гадах нашага стагоддзя Турцыя стала на шлях секулярызацыі грамадства пад кіраўніцтвам Мустафы Атацюрка, які з'яўляўся прыхільнікам еўрапеізацыі былой Атаманскай імперыі. У змаганні з ісламскім фундаменталізмам былі абраныя даволі радыкальныя метады — кшталту забароны чадры, зачынення рэлігійных судоў і пераходу на лацінскі шрыфт.

Сёння галоўная сіла, што супрацьстаіць ісламскаму фундаменталізму — армія. Ваенныя арганізуюць рэйды з мэтай выяўлення нелегальных школаў па схаластычным вывучэнні Карана, праследуюць тых, хто носіць у грамадскіх месцах цюрбаны, байкатуюць прадпрыемствы, што фінансуюць ісламскія рухі. Менавіта генералы вымусілі прэм'ер-міністра Эрбакана, лідэра ісламскай урадавай партыі Добрадзеяння, пайсці ў адстаўку.

Падчас амаль гадавога кіравання гэтая партыя схіліла краіну ў бок фундаменталізму і, паводле кіраўніка турэцкай контрразведкі, не перашкаджала дзейнасці каля 30 тэрарыстычных груповак. Эрбакан наладзіў адносіны з Іранам і Лівіяй, якія лічацца ва ўсім свеце спонсарамі ісламскага тэрарызму.



*На здымку: былы прэм'ер-міністр Турцыі Эрбакан і ягоная паплечніца па ісламісцкай кааліцыі Тансу Чылер. Эрбакан выказаў ідэю, што менавіта Чылер з'яўляецца рэальным прэтэндэнтам на пасаду старшыні ўрада ў бліжэйшай перспектыве.*

Турэцкія генералы ўжо тройчы ўмешваліся ў палітыку, пачынаючы з 1960 года. У цяперашні час Турцыя хутка развівае складаную сацыяльна-эканамічную структуру. Таму на гэты раз ваенныя вырашылі не браць уладу ў свае рукі, а дазволіць пераняць яе лідэру правацэнтрысцкай апазіцыйнай партыі Айчыны — Месуту Йылмазу. Раней ён зарэкамендаваў сябе як праеўрапейскі палітык, які выступае за шчыльнае супрацоўніцтва з *NATO*, членам якога Турцыя з'яўляецца, і Еўрапейскім Саюзам, дзе яна мае толькі частковае членства. Але новаму прэм'еру будзе цяжка стварыць урад. Ягоная партыя займае толькі 129 месцаў у парламенце з агульных 550. Йылмазу трэба будзе пераадолець кааліцыю фундаменталістаў і іх хаўруснікаў з партыі Вернага Шляху пад кіраўніцтвам Тансу Чылер, якая цяпер займае пасаду міністра замежных справаў. У сённяшніх варунках урад будзе хісткі, бо туды не ўвойдуць ісламісты, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю, хоць, усведамляючы гэта, Йылмаз плануе правесці выбары наступнай вясной. Супраць іх выступае не толькі армія, але і прэзідэнт Дэмірэль.

Падзеі ў Турцыі ўсхвалявалі Еўропу і ЗША. Анкара пакуль лічыцца самым стабільным партнёрам у мусульманскім свеце. Падчас «халоднай» вайны паўднёвы фланг *NATO* быў надзейнай абаронай ад СССР. Дый сёння Турцыя паспяхова супрацьстаіць экспансіі Расіі і Ірана ў рэгіёне. Адчуўшы, што краіна можа выслізгнуць з-пад уплыву, еўрапейцы мусяць змяніць свае не заўсёды партнёрскія адносіны да Турцыі і перагледзець прынцыпы яе ўступлення ў ЕС як раўнапраўнага члена.

Турцыя з'яўляецца адным з самых актыўных гандлёвых партнёраў Беларусі — прынамсі на рынку адзення, скураных вырабаў і іншых тавараў, якія можна знайсці на нашых базарах. У перспектыве магчымае супрацоўніцтва і ў галіне нафтавага бізнесу. Таму і для нас не ўсё роўна, як будуць развівацца падзеі ў гэтай краіне.

*Падрыхтаваў*
**Дзмітрый ДАРОХІН**

КАДРЫ

## У Купальскую ноч



СПОРТ

# Уімблдонскія дажджы

**АКАДЭМІЧНАЕ ВЕСЛАВАННЕ: У ПАГОНІ ЗА КУБКАМІ**

Чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў у Атланце, лепшая спартсменка Беларусі мінулага года Кацярына Хадатовіч выйграла і другі этап Кубка свету — у Парыжы. Пераможную кампанію ёй склаў экіпаж парнай чацвёркі: Дзяніс Табака, Генадзь Тапуноў, Алег Саламахін і Канстанцін Бялевіч. Гэтыя дзецюкі — алімпійская надзея Беларусі. Ужо сёння яны, як і Кацярына, узначальваюць спіс прэтэндэнтаў на Кубак свету ў сваіх намінацыях.

**ТЭНІС: ЎІМБЛДОНСКІЯ ДАЖДЖЫ**

Дождж у Англіі — з'ява звычайная. Але ўсё ж матчы Уімблдонскага тэніснага турніру ў такой колькасці, як цяпер, пераносяцца рэдка. Тым не менш ужо паспелі адбыцца першыя сенсацыі. Другая ракетка свету амерыканец Майкл Чанг у цяжкім пяцісэтавым паядынку саступіў аўстралійцу Тоду Вубрыджу, а пераможца нядаўняга адкрытага чэмпіёнату Францыі Густава Куэртэн (Бразілія) таксама ў пяці сэтах прайграў Джасціну Гімелстобу (ЗША).

У жаночым турніры першы ўпэўнены крок наперад зрабіла 17-гадовая мінчанка Вольга Барабаншчыкава,якая адолела немку Пэтру Бегераў — 6:3, 6:3. У другім крузе Вользе давядзецца сустрэцца з першай ракеткай — знакамітай Марцінай Хінгіс з Швейцарыі, якой 17 споўніцца толькі праз тры месяцы.

**ФУТБОЛ: МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЕ ПРОЦІСТАЯННЕ**

Шэсць матчаў 12-га тура нацыянальнага чэмпіянату не прынеслі ніякіх асаблівых сюрпрызаў. Хіба толькі чэмпіён-96 мазырскі МВКЦ згубіў дома два ачкі, згуляўшы ўнічыю з брэсцкім «Дынама» — 1:1.

*«Лакаматыў-96» (Віцебск) — «Атака» (Мінск) — 1:0, «Дынама-93» (Мінск) — «Нафтан-Дэвон» (Наваполацк) — 0:0, «Белшына» (Бабруйск) — ФК Маладзечна — 3:1, «Камунальнік» (Слонім) — «Нёман» (Гродна) — 1:1, «Трансмаш» (Магілёў) — «Шахцёр» (Салігорск) — 2:0.*

Тур скончыўся чарговымі паядынкамі «Тарпеда-Кадзіна» (Магілёў) — «Тарпеда» (Мінск) і «Дынама» (Мінск) — «Днепр» (Магілёў), вынікі якіх у гэты нумар не паспелі. Мінска-магілёўскае процістаянне адаб'ецца на сітуацыі ў турнірнай табліцы. Пакуль жа яна выглядае так.

| | Г | А |
|---|---|---|
| 1. «Белшына» | 12 | 31 |
| 2. «Лакаматыў-96» | 12 | 24 |
| 3. МВКЦ | 12 | 23 |
| 4. «Дынама» (Мн) | 11 | 22 |
| 5. «Дынама-93» | 11 | 21 |
| 6. «Днепр» | 11 | 19 |
| 7. «Дынама» (Бр) | 12 | 18 |
| 8. «Нёман» | 11 | 16 |
| 9. «Нафтан-Дэвон» | 12 | 15 |
| 10. «Атака» | 12 | 15 |
| 11. «Камунальнік» | 12 | 12 |
| 12. «Тарпеда-Кадзіна» | 11 | 10 |
| 13. «Тарпеда» | 11 | 9 |
| 14 «Трансмаш» | 12 | 8 |
| 15. ФК Маладзечна | 12 | 8 |
| 16. «Шахцёр» | 12 | 3 |

**НАШЫ — ЧЭМПІЁНЫ УКРАІНЫ**

Былыя мінскія дынамаўцы Валянцін Бялькевіч і Аляксандр Хацкевіч сталі чэмпіёнамі Украіны ў складзе кіеўскага «Дынама». Кіяўляне на 11 ачкоў адарваліся ад срэбных прызёраў — футбалістаў данецкага «Шахцёра» і на 15 — ад палтаўскай «Ворсклы». Вядомыя клубы не трапілі ў прызёры: «Днепр» (Днепрапятроўск) — 4-е месца, «Карпаты» (Львоў) — 5-е, «Таўрыя» (Сімферопаль) — 6-е, «Чарнаморац» (Адэса) — 7-е, «Металург» (Запарожжа) — 8-е.

Бялькевіч забіў у вароты сапернікаў 3 мячы, Хацкевіч — 1.

**«ДЫНАМА-93» — У ВАРШАВЕ**

У суботу футбалісты «Дынама-93» правядуць у сталіцы Польшчы другі матч на Кубак *UEFA*-Інтэртато з мясцовай «Палоніяй». У той жа дзень сустрэнуцца «Дуйсбург» (Германія) і «Ольбарг» (Данія).

Пакуль наперадзе «Ольбарг», які абыграў дома «Палонію» — 2:0, і «Дынама-93», якое перамагло галандскі «Херэнвен» — 1:0.

**У ДЭТРОЙЦЕ — УСЁ БЕЗ ПЕРАМЕНАЎ**

Уладзімір Канстанцінаў, абаронца хакейнага клуба «Дэтройт Рэд Ўінгз», і масажыст Сяргей Мнацаканаў па-ранейшаму знаходзяцца ў каматозным стане. Хаця Канстанцінаў, чуючы галасы блізкіх людзей, шавяліў пальцамі рук, у прытомнасць ён пакуль не прыйшоў.

Вячаслаў Фетысаў ізноў вярнуўся ў бальніцу, але толькі затым, каб падтрымаць сваю жонку, якую аперыравалі на апендыцыт.

**Сямён ПЛОЦ**

## У Горках ушанавалі памяць Гарэцкага

**У Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках Магілёўскай вобласці адчыніўся музей класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага.**

У Горацкай акадэміі ўстаноўлены бюст пісьменніка, на будынку, дзе вучыўся Гарэцкі, ёсць мемарыяльная дошка, а ў музеі адлюстраваны ягоны трагічны жыццёвы і творчы шлях. Максім Гарэцкі загінуў у сталінскіх засценках у 1938 г.

З нагоды адкрыцця музея ў акадэміі былі наладжаныя чытанні, прысвечаныя славутаму земляку. На іх прыязджала дачка пісьменніка Галіна Максімаўна.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Тройню паставілі ў чаргу

**Па статыстыцы раз на чвэрць стагоддзя ў горадзе Рэчыцы нараджаецца тройня.**

Сёлета пасля 25-гадовага перапынку маладая рэчычанка Марына Малыковіч ашчаслівіла свайго мужа Андрэя і ўвесь райцэнтр, нарадзіўшы дзвюх дзяўчынак і аднаго хлопчыка. Немаўляты нарадзіліся сямімесячнымі, вагой па 1.500 грамаў, і паўтара месяца знаходзіліся пад пільнай увагай медыкаў у бальніцы. Цяпер перыяд адаптацыі скончыўся, стан здароўя малых і маці дазволіў ім нарэшце пераехаць з лякарні дамоў. Праўда, дом стаў цесны для вялікай сям'і, і гарвыканкам зрабіў падарунак — паставіў маладую сям'ю на ўлік для паляпшэння жыллёвых умоваў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Падраслі і пацяжэлі

**Жыхары Гомельшчыны падраслі за апошнія 50 гадоў на шэсць сантыметраў, сёння сярэдні рост гомельца складае 173,3 см пры вазе цела 74,4 кг, а жанчыны 162,3 см пры вазе 66,8 кг.**

Такім чынам, моцны пол у сярэднім на 11 см вышэйшы і на 7,6 кг цяжэйшы за слабы. Статыстыка таксама сведчыць, што кожны 32-гі мужчына і кожная 12-я жанчына маюць залішнюю вагу, пры гэтым таўстунамі ў асноўным становяцца ў 50—60 гадоў. Так што трэба менш есці і больш рухацца — асабліва перад пенсіяй.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**



АФІША

# Альтэрнатыва для выпускнікоў

Маладзёжны клуб «Рэзервацыя» запрашае выпускнікоў на «Альтэрнатыўны выпускны баль». Вядома ж, ніхто не прымушае вас выбіраць — атрымаць атэстат у роднай школе ці пайсці на дыскатэку ў «Рэзервацыю». Альтэрнатыўным баль назвалі, відаць, таму, што ў клубе будзе музыка ўсіх стыляў, традыцыйных і альтэрнатыўных (апошняй, канечне, больш). Баляваць запрашаюць 28 чэрвеня з 22 гадзін вечара і ажно да 5:30 ранку, уваходныя квіткі каштуюць 50 тысяч рублёў.

Яшчэ адна маладзёжная альтэрнатыва — гульні Клуба вясёлых і знаходлівых, якія пройдуць 28 і 29 чэрвеня ў Палацы культуры чыгуначнікаў. У выніку гэтых сустрэч вызначацца паўфіналісты чэмпіянату Беларусі. Пачатак а 18-й гадзіне, квіткі па 40 і 60 тысяч рублёў.

**СВЯТА ЮНАЦТВА**

Вялікая праграма мерапрыемстваў у парку імя Горкага, прымеркаваная да Дня моладзі, пройдзе 29 чэрвеня. Пачатак а 12-й гадзіне. Адразу на ўсіх пляцоўках парках пачнуцца канцэрты (арганізатары нават плануюць, што выступяць эстрадныя зоркі — Я.Паплаўская і А.Ціхановіч, А.Саладуха і інш.). Нават проста шпацыруючы па алеях, можна будзе напаткаць вясёлых скамарохаў, а па Свіслачы ўвесь дзень будзе хадзіць кацер, на якім пройдуць гульні і забаўляльныя праграмы для пасажыраў. Увечары, а 18-ай гадзіне, пад адкрытым небам каля цэнтральнага ўваходу ў парк адбудзецца маладзёжная дыскатэка.

**ХРЫСЦІЯНСКАЯ РОК-МУЗЫКА**

Канцэрты гурта «Новы Іерусалім» цікавыя перш за ўсё адзінавернікам музыкантаў — хрысціянам Царквы Ісуса Хрыста. Вярнуўшыся з Амерыкі, дзе «Новы Іерусалім» гастраляваў ды працаваў над сваім дыскам, рок-хрысціяне распачынаюць канцэртны тур па Беларусі і Украіне. 27 чэрвеня яны выступяць у Дзяржынску, 28-га — у Барысаве, 29-га — у Мазыры, 5 ліпеня прыедуць у Гродна, а 12 ліпеня ў Брэст.

**АЛЕН ДЭЛОН У РОЛІ КАЗАНОВЫ**

На наступным тыдні заканчваецца кінапаказ лепшых акцёрскіх работ Алена Дэлона. 27 чэрвеня можна паглядзець «Басейн» (1968). Дзеянне разгортваецца на шыкоўнай віле, а сюжэт пацвярджае, што «багатыя таксама плачуць». Гэты стары добры дэлонаўскі фільм дэманстраваўся па тэлебачанні, але напэўна ж знойдуцца ахвотнікі паглядзець «Басейн» на французскай мове (сеанс 18:00) або з рускім перакладам (21:00).

30 чэрвеня сапраўдныя кінаюбы атрымаюць асалоду ад фільма «Новая хваля» (1990), які зняў славуты рэжысёр Жан-Люк Гадар ва ўласцівай яму суб'ектыўна-псіхалагічнай манеры. Тэма — чалавечыя страсці. Пачатак сеансу ў 21:00.

Завершыцца паказ 1 ліпеня фільмам 1992 года «Вяртанне Казановы». Немалады Ален Дэлон іграе ў ім ролю немаладога Казановы — праслаўленага «рыцара кахання», які пад старасць вырашыў вярнуцца ў родную Венецыю. Пачатак а 21-й гадзіне. Кошт квіткоў на ўсе фільмы —10 тысяч рублёў.

**ТЭАТРЫ**

Тэатр оперы і балета запрашае паглядзець 27 чэрвеня балет «Шчаўкунок» Чайкоўскага, 28-га пройдзе опера Вэрдзі «Рыгалета», а 29-га — балет А.Мдзівані «Страсці». У тэатры музычнай камедыі 29 чэрвеня пройдзе «Вясёлая ўдава», 1 ліпеня — «Марыца», 2-га — «Капялюш Напалеона». Тэатр-студыя кінаакцёра прапануе паглядзець імпрэзу паводле п'есы М.Варфаламеева «Міленькі ты мой», якую будуць паказваць 27 і 28 чэрвеня, а таксама 1 і 2 ліпеня.

**ДЗІЦЯЧЫ МУЗЕЙ ВАСКОВЫХ ПЕРСОН**

Музеі васковых персон, дзе сабраныя партрэты знакамітасцяў, вельмі папулярныя — разглядай кіназорак ды прэзідэнтаў колькі хочаш, і нават фота на памяць можаш зрабіць. Але вялікія людзі цікавыя дарослым, у дзяцей жа іншыя «суперзоркі» — Карлсан, Карабас-Барабас, Беласнежка... Цудоўная ідэя дзіцячага музея васковых персон была ўвасобленая ў Санкт-Пецярбургу, які прывёз сваю выставу ў Мінскі палац дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41).

Героі любімых кніжак і мульцікаў сапраўды «як жывыя» — і твары выразныя, і паставы натуральныя, і касцюмы ўдалыя. Дарослыя, што прыводзяць сваіх чадаў на выставу, і самі з цікаўнасцю разглядаюць экспанаты. А для дзяцей гэта і забаўкі, і загадкі, бо подпісаў няма, мусіш сам успамінаць прачытаныя кніжкі і здагадвацца — хто гэта тут ляціць на пушачным ядры, а хто выпускае страшэннага джына са старой меднай лямпы. Дзіцячы квіток каштуе 15 тысяч рублёў, дарослы — 35 (пенсіянерам і студэнтам — 25). За дадатковую плату дазваляецца фатаграфаваць і здымаць экспанаты на відэа. Выстава будзе працаваць да 17 ліпеня, без выходных, з 10 да 20 гадзін.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**



© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (першы завод — 38.750)
Нумар падпісаны ў друк 26.06.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 321